У НУМАРЫ

- Беларуская песня — 72
- Кніга набліжае народы
- Асунок
- Хвалюючыя справы
- Юбілей нашага друку



# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (845) ГОД XVII БЕЛАСТОК 7 МАЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


## ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА

20 красавіка г.г. у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбылася сустрэча старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку др Зыгмунта Спрыхі з членамі Прэзідыума Галоўнага праўлення, журналістамі «Нівы», актывам і працаўнікамі нашай арганізацыі.

Сустрэчу адкрыў старшыня ГП БГКТ М. Хмялеўскі і прадставіў усіх яго удзельнікаў тав. Зыгмунту Спрыху. Затым сакратар ГП БГКТ Я. Зенюк паінфармаваў аб заданнях, дасягненнях і цяжкасцях у працы нашага таварыства.

Старшыня Прэзідыума ВРН абшырна і ўсебакова пазнаёміў прысутных з гаспадарчымі праблемамі Беласточчыны, вырашэннем якіх займаецца цяпер і будзе займацца ў бліжэйшай будучыні Прэзідыум ВРН. Тав. З. Спрыха падкрэсліў, што неабходна, каб нашыя сяляне, абапіраючыся на грунтоўных сельскагаспадарчых ведах, інтэнсіўна прымянялі штучныя ўгнаенні, селекцыйнае насенне, пашыралі жывёлагадоўлю.

Беластоцкая прамысловасць, побач з будаўніцтвам новых прадпрыемстваў, будзе пашыраць сваю дзейнасць адкрыццём сваіх філій у меншых гарадах і мястэчках. Прадбачваецца далейшае развіццё спажывецкай прамысловасці.

Вялікія заданні стаяць перад беластоцкімі будаўнічымі прадпрыемствамі, бо з кожным годам колькасць жыллёвага будаўніцтва будзе ўзрастаць.

Беласточчына з'яўляецца адным з нямногіх ужо рэгіёнаў з чыстым паветрам і водамі. Таму ВРН прыкладае вялікія намаганні, каб адпаведна забяспечыць турыстаў.

Нашыя вышэйшыя навучальныя ўстановы выпускаюць ужо многа добра падрыхтаваных кадраў для працы ў прамысловасці, ахове здароўя, асветных і культурных установах. Але запатрабаванне на іх узрастае, і ВРН клапоціцца пра тое, каб на Беласточчыну больш ахвотна, чым дагэтуль, прыходзілі выпускнікі вышэйшых школ Варшавы і іншых акадэмічных цэнтраў краіны.

Пасля свайго выступлення З. Спрыха адказваў на пытанні, якія накіроўвалі да яго ўдзельнікі сустрэчы. Атмасфера была вельмі сардэчная.

(мг)



*Старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады народовай у Беластоку др Зыгмунт Спрыха.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 18 красавіка старшыня і сакратар ГП БГКТ М. Хмялеўскі і Я. Зенюк, старшыня і сакратар сакольскага аддзела БГКТ С. Лукашук і І. Аношка, а таксама кіраўнік аддзела культуры прэзідыума ПРН у Саколцы В. Філіповіч сустрэліся ў Крынках з прадстаўнікамі мясцовых улад, моладдзю і старэйшымі жыхарамі. Супольна былі абмеркаваны ўсе справы, звязаныя з утварэннем у Крынках харавога калектыву. А гэта звязана з аплочваннем дырыжора, які даяжджаў бы з Беластока, з яго начлегам, з пакупкай фартэпіяна і іншых музычных інструментаў, з пакупкай рэгіянальных касцюмаў, з забеспячэннем рэпертуара і 100-працэнтнай прысутнасцю на рэпетыцыях і ўрэшце з належнай дысцыплінай. Аб гэтых справах гаварылі шырока Я. Зенюк і В. Філіповіч, Я. Апунік, У. Анісімовіч і іншыя.

■ 22 красавіка ў памяшканні ГП прадстаўнік В/О Міжнародная кніга Г. Сяргееў і прадстаўнік Дома кнігі ў Беластоку С. Какарэка перадалі выстаўку беларускай кніжкі Галоўнаму праўленню БГКТ. Ад імя ГП акт прыняцця выстаўкі падпісаў сакратар ГП Я. Зенюк і кіраўнік культурна-асветнага аддзела С. Лукашук.

■ 23 красавіка бельскі харавы калектыў БГКТ даў канцэрт у Мельніку (Сямяціцкі павет) для студэнтаў з Беластока і Варшавы, якія прымалі ўдзел у райдзе «Курдэш II».

■ Аматарскія тэатральныя калектывы ў паасобных аддзелах рыхтуюцца да фінальнага агляду, які адбудзецца 14 мая ў памяшканні ГП БГКТ.

■ Аддзелы БГКТ ужо зацвердзілі даты і мясцовасці, у якіх адбудуцца народныя фэсты Беларускага таварыства, прысвечаныя 90 гадавіне з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў Я. Купалы і Я. Коласа. І так, сямяціцкі аддзел БГКТ арганізуе фэстын 28.V. у Літвінавічах, бельскі аддзел — 4.VI. у Орлі, Гайнаўскі — 18.VI. у Арэшкаве, Беластоцкі (павятовы), 2.VII. у Рыбаках і Сакольскі — 9.VII. у Крынках.

■ 18.VI. ГП БГКТ і ваяводскае праўленне ТППР арганізоўваюць акадэмію, прысвечаную 90 гадавіне з дня нараджэння Я. Купалы. Мастацкую частку падрыхтоўвае гарадоцкі харавы калектыў' (мс)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-72



*Першае месца на аглядзе заняла Станіслава Костра. «Беларускія песні я надта люблю, — сказала яна, міла ўсміхаючыся. — Я іх спявала з маленства...»* фота Цаф — П. Савіцкі.

Гэты святочны дзень 16 красавіка 1972 года ў Беластоку на Варшаўскай 11 быў днём хваляванняў і ўданых выканаўчых здзяйсненняў. Пры запоўненай да апошняга месца глядачамі канцэртнай зале ішоў цэнтральны агляд конкурсу «Беларуская песня—72». Ён ужо тры гады з'яўляецца ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве артыстычным мерапрыемствам высокага класа. У ім выступаюць найбольш актыўныя і найлепшыя самадзейнікі-спевакі.

Конкурсы «Беларуская песня» карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Калі ў 1970 г. у павятовых аглядах прыняло ўдзел усяго 32 асобы, то ўжо ў 1971 г. — 70 асоб, а ў бягучым — аж 125 спевакоў.

Вельмі спраўна і ўмела вяла агляд В. Філіпюк — сакратар беластоцкага павятовага аддзела БГКТ.

Ацэньвала падбор рэпертуару і выканаўчае майстэрства спевакоў журы пад старшынствам Т. Калдоўскага (мастацкі кіраўнік ансамбля «Зялёныя курпі»).

Да агляду прыступіла 9 салістаў, 8 дуэтаў і 2 калектывы. Абавязкам кожнага з іх было выканаць дзве песні. Апрача конкурсных выступленняў, калектыў з Гарадка і маладзёжны ансамбль «Рэлякс» з Агульнаадукацыйнага ліцэя з

Працяг на стар.4





Два тыдні, з 11 па 23 красавіка г.г., выставачная зала Ваяводскай камісіі прафсаюзаў у Беластоку поўнілася ўсё новымі наведвальнікамі першай у нашым горадзе Міжнароднай выстаўкі беларускай кнігі. Дарослыя беластачане, моладзь і школьнікі з зацікаўленнем ішлі на яе, каб хацця ў той меры, на якую дазваляюць абмежаваныя магчымасці экспазіцыі, пазнаёміцца з дасягненнямі выдавецкай прамысловасці нашага прыяцеля і бліжэйшага суседа — Беларускай ССР. І кожны захапляўся багаццем экспанаванай выдавецкай прадукцыі, яе высокім мастацкім і тэхнічным узроўнем.

Беларускае кнігадрукаванне мае доўгую гісторыю. Першая беларуская кніга выйшла, як вядома, у 1517 г. з друкарні Францішка Георгія Скарыны. Але за чатырыста гадоў пасля гэтага факту было надрукавана ўсяго некалькі сотняў кніг на беларускай мове. Толькі пры савецкай уладзе беларускі народ атрымаў неабмежаваны доступ да асветы, усіх культурных цэннасцей і кнігі. У 1971 г. у васьмі выдавецтвах БССР выпушчана 2600

(Працяг на стар. 4)



*На выстаўцы беларускай кнігі ў Беластоку.* Фота Цаф — Р. Сянько

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

##  СВЕТ

### АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З СССР

Міністр сельскай гаспадаркі ЗША Э. Буц, які нядаўна наведаў Савецкі Саюз, заявіў, што расшырэнне гандлю між ЗША і СССР было б карысным для абодвух бакоў. Э. Буц сказаў, што яго візіт у СССР закончыўся значным поспехам. Сваю размову з генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым ахарактарызаваў ён як «вельмі шчырую дыскусію». Нашыя размовы, сказаў Э. Буц, толькі распачаліся, перад намі заданне — вырашыць многія праблемы.

### КАМУНІСТЫ Ў ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ ЗША

У штаце Нью-Джэрсі амерыканскія камуністы сабралі значна большую колькасць подпісаў, чым неабходна, пад петыцыяй у падтрымку кандыдатур Кампартыі ЗША ў выбарчай кампаніі гэтага горада. Гэта дае кампартыі права ўнесці імёны Гэса Хола і Дж. Тайнера ў выбарчыя бюлетэні штата Нью-Джэрсі.

Камуністы ЗША ўжо дабіліся ўключэння сваіх кандыдатаў у выбарчыя бюлетэні штатаў Алабама, Кентукі, Агайо, Пенсільванія і Юта.

### АДБУДЗЕЦЦА СУСТРЭЧА

У мясцовасці Мары адбываліся перагаворы спецыяльных прадстаўнікоў прэм'ер-міністра Індыі Індзіры Гандзі і прэзідэнта Пакістана З. А. Бхута. У выніку перагавораў устаноўлены падрабязнасці будучай сустрэчы прэзідэнта Пакістана і прэм'ер-міністра Індыі, а таксама намечаны тэмы, якія будуць прадметам дыскусіі.

Сустрэча Індзіры Гандзі і З. А. Бхута адбудзецца ў Дэлі ў канцы мая або ў пачатку чэрвеня г.г.

### СУПРАЦЬ ДЭКАЛАНІЗАЦЫІ

Прадстаўнік арганізацыі афрыканскага адзінства, які выступаў у Камітэце ААН па дэкаланізацыі, асудзіў імперыялістычныя дзяржавы за іх усебаковую падтрымку каланіяльна-расісцкіх рэжымаў у Афрыцы і падкрэсліў, што гэтыя дзяржавы дапамагаюць расісцкай меншасці на поўдні кантынента перашкаджаць вырашэнню надзённых праблем народаў гэтага раёна.

Прадстаўнік ААА заклікаў ААН запатрабаваць ад саюзнікаў Партугаліі па НАТО спыніць аказанне ёй ваеннай дапамогі.

### ЗА БЯСПЕКУ ЕЎРОПЫ

Усё больш актыўна выступае за ўмацаванне бяспекі Еўропы шырокая грамадскасць з кантынента. Апошняе таму сведчанне — прайшоўшая гэтымі днямі ў Бруселі сесія ініцыятыўнага камітэта па скліканню асамблеі грамадскіх сіл за еўрапейскую бяспеку і супрацоўніцтва. Камітэт, у рабоце якога прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскасці 25 еўрапейскіх дзяржаў, пацвердзіў, што асамблею, правядзенне якой, несумненна, будзе ў вялікай меры садзейнічаць паспяховай рабоце агульнаеўрапейскай нарады, вырашана склікаць у сталіцы Бельгіі ў першых днях чэрвеня.

(А. К.)

##  БССР

### ЛЕНІНСКІЯ ПРЭМІІ

Напярэдадні 102 гадавіны з дня нараджэння Леніна і Першамая былі аб'яўлены прозвішчы лаўрэатаў Ленінскай прэміі за 1972 год. Сярод іх апынуўся вядомы беларускі пісьменнік Іван Мележ. Ленінскую прэмію яму прысудзілі за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

Пры нагодзе варта адзначыць, што Ленінскай прэміі ўдастоены аўтары мастацкай кінахронікі «Вызваленне», якую маглі мы глядзець і ў Беластоку.

### КНІЖКА ПРА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

У кніжных магазінах паявілася дакументальная аповесць «Кастусь Каліноўскі», аўтарам якой з'яўляецца А. Якімовіч. У рэцэнзіі на гэтую кніжку Л. Царанкоў на старонках журнала «Беларусь» адзначае, што пісьменнік з гістарычнай дакладнасцю паказвае ўсе важнейшыя этапы і эпізоды паўстання 1863 года, правільна раскрывае суадносіны класавых сіл, адлюстроўвае імкненні польскіх паноў, якія намагаліся выкарыстаць паўстанне ў сваіх класавых мэтах. Тут таксама ідзе гаворка пра сяброў К. Каліноўскага: В. Урублеўскага, Р. Траўгута і З. Серакоўскага. Гэтую кніжку можна было купіць на выстаўцы беларускай кнігі ў Беластоку.

### ПОЛЬСКАЕ КОНСУЛЬСТВА

Ад 14 красавіка г.г. працуе ў Мінску Генеральнае консульства Польскай Народнай Рэспублікі. Абавязкі генеральнага консула ПНР у сталіцы БССР выконвае А. Валяшэк.

### КАШУБСКАЯ ПАЭЗІЯ

Мінскі літаратурна-грамадскі часопіс «Літаратура і мастацтва» ад 21 красавіка г.г. змясціў падборку вершаў кашубскага народнага паэта Алойза Нагеля ў перакладзе на беларускую мову Алеся Траяноўскага. Ва ўступным слове перакладчык, між іншым, адзначае: «На ўзбярэжжы Балтыкі, паміж вярхоўямі Віслы і Ракой Слупяй жыве 200-тысячны славянскі народ — Кашубы. Стагоддзі нямецкага панавання, лютыя намаганні германізацыі разбіліся аб непахісную стойкасць кашубаў. Сёння ў Польскай Народнай Рэспубліцы кашубскія пісьменнікі выдаюць свае творы на роднай мове».

### НА БРЭСТЧЫНЕ

Як паведамляе агенцтва БЕЛТА, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў азнаёміўся з ходам вясеннепасяўной кампаніі ў некаторых раёнах Брэсцкай вобласці. Хлебаробы Брэстчыны ў гэтым годзе вырашылі змагацца за атрыманне 23 цэнтнераў збожжавых, 145 — бульбы, 230 — цукровых буракоў.

### ВЫНІКІ I КВАРТАЛА

Паводле паведамлення Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення БССР, гаспадарка рэспублікі перавыканала план першага квартала 1972 года. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з першым кварталам мінулага года склаў 12 працэнтаў, прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ўзрасла на 8 працэнтаў.

(вр)

##  ПОЛЬШЧА

### ПЕРАД 1 МАЯ

29 красавіка г.г. у Цэнтральным Камітэце ПАРП у Варшаве адбылося ўрачыстае ўручэнне высокіх дзяржаўных адзначэнняў людзям найбольш заслужаным у працы для краіны. На заканчэнне ўрачыстасці I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк пажадаў найлепшых поспехаў усім працоўным у нашай краіне.

### ВЫСТУПЛЕННЕ Э. ГЕРКА

З нагоды першамайскай урачыстасці I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк выступіў з прамовай па радыё і тэлебачанні. Перадаў ён свае найлепшыя пажаданні ўсім працоўным.

### 10—11 МАЯ V ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

25 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі разгледжаны метады рэалізацыі сацыяльнай палітыкі ў гэтай пяцігодцы. Палітбюро пастанавіла склікаць 10—11 мая г.г. V пленум ЦК, які будзе абмяркоўваць перспектыўную праграму будаўніцтва кватэр.

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА

27 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Сейма, якое прысвячалася абмяркоўцы праекта пастановы аб пяцігадовым грамадска-гаспадарчым плане развіцця нашай краіны ў гадах 1971—75. У другім пункце парадку дня міністр замежных спраў С. Альшоўскі інфармаваў аб ратыфікацыі дагавора між Польшчай і Германскай Федэратыўнай Рэспублікай. У чарговым пункце была справаздача камісіі асветы і выхавання аб праекце пастановы — Карце правоў і абавязкаў настаўнікаў. На заканчэнне пасяджэння разглядаліся пастановы адносна развіцця будаўніцтва кватэр.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

28 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў з удзелам усіх старшынь ВРН, якое прысвячалася ацэнцы актуальнай гаспадарчай сітуацыі. Рада Міністраў выдала шэраг распараджэнняў адносна паспяховай рэалізацыі задач гэтага года.

### НОВЫЯ НАМЕСНІКІ МІНІСТРА

Старшыня Рады Міністраў назначыў 45-гадовага Э. Войташка намеснікам міністра ўнутраных спраў, а намеснікамі міністра асветы і выхавання 55-гадовага генерала дывізіі З. Гушчу, 55-гадовага М. Гадлеўскага і 45-гадовага Ю. Волчыка.

### ПЛЕНУМ ЦРЗЗ

26 красавіка г.г. адбыўся XXV пленум Цэнтральнай рады прафсаюзаў, які прысвячаўся справам удзелу прафсаюзаў у рэалізацыі грамадска-гаспадарчых планаў развіцця краіны ў 1971—75 г.г. З дакладам выступаў старшыня ЦРЗЗ У. Кручэк. У дыскусіі многа месца прысвячалася справам парадку і дысцыпліны на прадпрыемствах, а таксама павелічэнню прадукцыйнасці працы. На заканчэнне была прынята пастанова аб скліканні VII Кангрэса прафсаюзаў 13—15 лістапада г.г.

### ПЛЕНУМ ГП ПРАФСАЮЗАЎ РАБОТНІКАЎ СЛУЖБЫ ЗДАРОЎЯ...

...абмеркаваў справы, звязаныя з бяспекай і гігіенай працы ў лячэбных установах, а таксама падсумаваў вынікі праведзеных кантроляў у гэтых установах.

(ця)

##  ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАМАЙ

З пачуццём добра выкананага працоўнага абавязку выйшлі жыхары Беластока і павятовых гарадоў на першамайскую дэманстрацыю. Багата ўпрыгожаныя вуліцы і цудоўнае надвор'е стварылі асабліва ўзняты настрой. Рабочыя фабрык і прадпрыемстваў сустрэлі свята працоўных тэрміновым выкананнем чарговых планаў, прыспяшэннем працы ў выкананні сваіх абавязацельстваў у акцыі «20 мільярдаў», працай грамадскім чынам на карысць свайго прадпрыемства і горада. Напярэдадні Першамая на прадпрыемствах і ва ўстановах адбыліся ўрачыстыя вечары.

Ваяводскі ўрачысты першамайскі вечар адбыўся ў Беластоку 29 красавіка ў тэатры імя А. Вянгеркі.

### ТАВ. ЯН ШЫДЛЯК НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

28 красавіка на Беласточчыне прабываў член Палітбюро, сакратар ЦК партыі тав. Ян Шыдляк. Госць наведаў жыллёвыя раёны Тысячагоддзя і Пяста ў Беластоку, цікавіўся праблемамі будаўніцтва, пабываў на фабрыцы халадзільнікаў, на сілікатным прадпрыемстве і на ФПіУ. Суправаджалі госця I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, кіраўнік эканамічнага аддзела ВК М. Недзведзь і I сакратар гарадскога камітэта партыі Р. Жукоўскі.

На заканчэнне візіту Я. Шыдляка ў ВК партыі адбылася сустрэча госця з ваяводскім партыйным актывам.

### СУСТРЭЧА З ВЕТЭРАНАМІ

Напярэдадні свята працоўных у Ваяводскім камітэце партыі адбылася сустрэча экзекутывы ВК з ветэранамі барацьбы за волю і грамадскую справядлівасць — былымі членамі ППР, заслужанымі дзеячамі Беласточчыны. I сакратар ВК партыі З. Куроўскі сардэчна павіншаваў усіх ветэранаў з надыходзячым святам і праінфармаваў іх аб выкананні працоўнымі Беласточчыны планаў сваіх прадпрыемстваў, аб удзеле грамадства ў акцыі «20 мільярдаў», эфектам якой стала дадатковая прадукцыя на суму 450 млн. злотых. I сакратар паведаміў ветэранам аб стварэнні камісіі па справах дзеячаў. Старшынёй камісіі з'яўляецца Я. Златажынскі.

За асаблівыя заслугі ва ўмацаванні народнай улады многія дзеячы атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

### СЕСІЯ ВРН

26 красавіка адбылася ў Беластоку XVII сесія ВРН. Сесія была прысвечана важным гаспадарчым справам. Госцьмі былі віцэ-дырэктар дэпартамента сельскай гаспадаркі Камісіі планавання пры Радзе Міністраў В. Харашэўскі, віцэ-дырэктар дэпартамента тэрэновай гаспадаркі міністэрства фінансаў Е. Піскорскі, дырэктар прэзідыяльнага дэпартамента НІК у Варшаве А. Канашыц. З дакладам аб забеспячэнні насельніцтва выступіў намеснік старшыні прэзідыума ВРН Ул. Міхалюк. Радныя зацвердзілі справаздачу аб выкананні гаспадарчага плана і бюджэту на 1971 год. На сесіі была прынята пастанова, якая акрэслівае дакладныя граніцы раёна інтэнсіўнага развіцця сельскай гаспадаркі ў нашым ваяводстве.

(яч)




**NIEDZIELA 7. V. 72**
7.35 Program dnia. 7.40 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja pomieszczeń inwentarskich". 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 PKF. 9.00 „TV Klub Śmiałych". 10.15 „Złota kielnia" — młodzieżowy program konkursowy. 11.10 „Rzeszowiacy" — VII program folklorystyczny („Z ludowej szkatuły"). 11.45 Dziennik. 12.00 „Fantazje i ekspresje" („W kręgu mistrzów sztuki"). 12.30 „Przemiany". 13.00 Dla dzieci: „Co to jest?" — konkurs-zabawa. 13.50 „Piórkiem i węglem". 14.15 „Co wiesz o Czechosłowacji" — teleturniej. 15.05 „Ziemia Matki Boskiej" — rep. 15.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Polska — Bułgaria (Eliminacje olimpijskie). W przerwie meczu ok. 16.15 Informacje Wyścigu Pokoju. 17.50 XXV Wyścig Pokoju — Sprawozdanie z zakończenia III etapu (Magdeburg). 18.15 „Wieczór z Naną Mouscouri" — franc. program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — seryjny film franc. 20.55 „Słowo o Jakubie Jubilacie czyli Kraków wczoraj i dziś". 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju i Magazyn Sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 8. V. 72**
15.10 i 22.40 Politechnika TV — Kurs przygotowawczy .Fizyka. 16.15 Program dnia. 16.20 XXV Wyścig Pokoju — Sprawozdanie z zakończenia IV etapu (Erfurt). 17.15 Dziennik. 17.25 „Zwierzyniec" 18.10 Kino Filmów Animowanych. 18.40 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Poczdam 1945". Po teatrze ok. 21.35 Utwory mistrzów klawesynu. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju.

**WTOREK 9. V. 72**
9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski. Antoni Czechow „Czajka" 10.30 „Na wojnie, jak na wojnie" — film fab. radz. 12.45 Przysposobienie Rolnicze: „Higiena pomieszczeń inwentarskich". 15.05 i 22.50 Politechnika TV — rok I. Matematyka. 16.10 Program dnia. 16.15 XXV Wyścig Pokoju — Sprawozdanie z zakończenia V etapu (Gera). 17.05 Dziennik. 17.15. Oferty. 17.35 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Na wojnie, jak na wojnie" — film fab. radz. 21.30 „Święto Pracy" — transmisja koncertu rozrywkowego z Sali Kongresowej PKiN w Warszawie. 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju.

**ŚRODA 10. V. 72**
9.45 Film. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia. „Ostatni z Piastów". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka. „Fale elektromagnetyczne". 13.40 Wybieramy zawód. 15.00 i 23.05 Politechnika TV — Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.05 Program dnia. 16.10 Dla młodych widzów: „Kino z komentarzem". 16.45 Dziennik 16.55 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu piłki nożnej Polska—Szwajcaria. W przerwie ok. 17.45 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Cel — 7 milionów" („Mieszkaniowe progi"). 19.20 Dobranoc 19.30 Dziennik. 20.05 Film. 21.00 Świat i Polska. 21.30 PKF. 21.40 Lidia Grychtołówna („Artyści, których podziwiamy"). 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**CZWARTEK 11. V. 72**
8.15 Matematyka w szkole: „Wstęp do teorii informacji" cz. II 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski. „Publicystyka XVIII w.". 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski. „Nasz dzień powszedni" („Poszukiwacze skarbów"). 15.25 i 22.50 Politechnika TV — rok I. Fizyka. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 XXV Wyścig Pokoju — Sprawozdanie z zakończenia VI etapu (Karlove Vary). 17.35 „Ekran z bratkiem". 18.30 TV Kurier Kielecki. 18.50 „Dla rynku" 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przypominamy, radzimy... 20.10 Teatr Sensacji: W. Biliński „Wizja lokalna". Po Teatrze ok. 21.10 Wszechnica TV: „Ucho igielne" („Sztuka liczenia"). 21.40 „Wiosna raz" („Pory roku w piosence"). 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Wyścigu Pokoju.

**PIĄTEK 12. V. 72**
8.00 TV Kurs Rolniczy: „Kanalizacja w zagłębionych budynkach inwentarskich". 10.25 „Ojciec Smike'a" („Nicholas Nickleby" — odc. XIII — ostatni) — film TV ang. 10.55 Dla szkół: (kl VIII) Wychowanie obywatelskie. „Między nami sąsiadami". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie. „Są wśród nas...". 15.20 i 22.55 Politechnika TV — rok I. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.50 XXV Wyścig Pokoju — sprawozdanie z zakończenia VII etapu (Praha). 17.30 Nie tylko dla pań. 17.55 Za kierownicą. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „O diabłach, sowizdrzale i królu Stasiu" — felieton E. Lipińskiego (Historia polskiej kultury — cz. II). 19.05 Turystyka i wypoczynek. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.05 „Ojciec Smike'a" („Nicholas Nickleby" — odc. XIII — ostatni) — film TV ang. 20.30 Kraj. 21.10 Teatr Telewizji na świecie: „Romanetto" — wg powieści J. Arbesa. Program TV Czechosłowackiej. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju.

**SOBOTA 13. V. 72**
9.20 „Vera Cruz" — film fab. USA. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku. „Sprawy 15-latków" — program II. 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.45 XXV Wyścig Pokoju — sprawozdanie z zakończenia VIII etapu (Hradec-Kralove). 17.25 Teatr Młodego Widza — Scena Faktu: „Żegnaj domku" („Pamiętniki młodzieży"). 18.05 Spotkanie z przyrodą. 18.30 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Vera Cruz" — film fab. USA. 21.45 Dziennik 22.05 Kronika Wyścigu Pokoju i Wiadomości sportowe. 22.30 Recital Karela Gotta.




**Piątek, 5 maja**

8.15 Film fab. 15.00 Dla dzieci. 16.10 Film dokument. 17.30 Hokej. „Dynamo" (Moskwa) — „Spartak". 19.45 Film dokument. 20.20 Kompozytor I. Łuczanok.

**Sobota, 6 maja**

7.30 Nowiny. 8.30 Film fab. 10.35 Koncert chóru pieśni rosyjskiej. 11.20 Nowiny. 14.05 W eterze „Młodość". 15.05 Koncert. 15.30 Dla dzieci. 15.50 Panorama nowin. 16.10 Dokument. film seryjny „Zima i wiosna czterdziestego piątego". I seria. 17.10 Spektakl teatralny. 20.35 Program muzyczny. 21.15 Wyścig Pokoju.

**Niedziela, 7 maja**
7.00 Program dnia 7.15 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 9.30 Dla wsi. 11.05 Przegląd międzynarodowy. 12.10 Białe i czarne. 12.30 Program międzynarodowy. 12.55 Spotkanie przyjaciół. 13.55 Film animowany dla dzieci. 14.15 Uniwersytet ludowy. 15.00 „Zima i wiosna 45." II seria. 16.10 Almanach TV. 17.05 Klub filmowy. 18.00 Piłka nożna „Dynamo" (Kijów) — „Torpedo" (Moskwa). 19.00 Czas. 19.30 „Dworzec Białoruski". Film fab. 21.05 Nowiny. 21.15 Koncert.




# ВЯРНУЎСЯ З «ТАГО СВЕТУ»

Ляжаў ён сярод памершых, як памершы. Ляжаў у халоднай трупярні. Ачнуўся, пачаў разглядацца, дзе ён, пачаў думаць, што з ім здарылася. Запах трупаў падняў яго на ногі. Падышоў ён да аднаго і другога, паглядзеў, дакрануўся да іх халоднага твару і рук. Пасля да сябе дакрануўся. Ён цёплы і акрываўлены.

— Даражэнькія, я яшчэ жыву, я вам яшчэ не сябра! — закрычаў на ўвесь голас і пачаў валіць кулакамі ў дзверы. А ў шпіталі трывога. Нехта ўваскрэс! Трэба ісці туды, бо чуваць стук, нейкі голас. Пайшлі медсёстры з лекарам адкрываць «уваскрэсшаму». Страх іх апаноўвае, але цікавасць перамагае. І адкрылі дзверы! З трупярні рвануўся здаравенны акрываўлены чалавек, залаяўся і пабег. Світала. Усе дзіву даваліся, што сталася. Адкуль узяўся ў трупярні такі здаравяка. А здарылася ўсё гэта так.

З даваенным свінабоем, з таленавітым спецыялістам ад продажу мяса дагаварыўся адзін селянін паехаць у Беласток у «галі» прадаваць кароўе мяса. Гэты былы мяснік запрапанаваў гаспадару высокую цану — кажуць тры тысячы злотых (было гэта больш як дзесяць год таму назад).

— Калі ў «галях» не вазьму гэтай сумы — мая страта, а калі вазьму больш — мой выйгрыш, — сказаў спецыяліст. Гаспадар ахвотна згадзіўся на такую карысную прапанову. І вось яны ў «галях». Гаспадар глядзіць, як яго мяса людзі ахвотна купляюць і як умела прадае мяснік людзям мяса. Прадаў хутка, прадаў дорага, бо ўтаргаваў больш як чатыры з палавінай тысячы. Такім чынам выйшла мясніку больш як паўкаровы. І пачала распіраць гаспадара захланнасць і злосць. Уявіў ён сабе ўсё, як некалькі год карміў карову, падсцілаў ёй, касіў сена, рэзаў сечку. А яго прадавец за той час паспеў ужо з радасці спіцца, прыйшоў і паваліўся на воз, як сноп. Едучы дамоў, гаспадар раздумваў, як выцягнуць грошы ад п'янага. Але колькі разоў ні прабаваў, п'яны прадавец па-п'янаму лаяўся і соўваў яму моцныя куксачы. Праз нейкі час заснуў, захроп здаравяка.

— Цяпер усё роўна забяру грошы, — пастанавіў гаспадар. Ён раптоўна ўдарыў мясніка ў галаву і нажом чахнуў па шыі. Той ахнуў раз і заціх. Гаспадар выцягнуў грошы, а пасля выкінуў сваю ахвяру на дарогу. Неўзабаве праязджала там машына. Знайшліся міласерныя людзі і гэтай машынай адвезлі няшчаснага ў шпіталь. Парэзаны, п'яны, пабіты, акрываўлены — не даваў ён знаку жыцця. Усім здалося, што ён мёртвы. Памыліўся і лекар, які сказаў нязнанага мёртвага чалавека палажыць у трупярню.

*Міхась Хмялеўскі*



Вышэй гэтых «ідэалаў» ён ніколі не ўзнімаўся. Уся яго літаратурная практыка не выходзіла за межы абгрунтавання пад'ярэмнага становішча народа ў адносінах да беларускай і польскай шляхты» (С. Майхровіч. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мінск 1959 с. 56).

Такім чынам, Майхровіч зводзіць ідэалогію Баршчэўскага да ідэалогіі вялікіх землеўласнікаў, да тых, хто бязлітасна душыў беларускага селяніна і хто забіваў таксама беларускую культуру. І не правільна. Тыповыя землеўласнікі не хадзілі па вёсках, не запісвалі беларускага фальклора, не прабавалі пісаць на беларускай мове, не марылі аб паляпшэнні народнага жыцця. А ўсё гэта рабіў Баршчэўскі, рабіў, кіруючыся сімпатыяй да Беларусі. І таму звесці ідэалогію гэтага чалавека да ідэалогіі феадала — значыць не быць у згодзе з праўдай, з рэчаіснасцю.

Вельмі лёгка «разнесці» чалавека, які даўно ўжо не жыве, які не мае магчымасці бараніцца. Сучаснікі, аналізуючы мінулае, павінны выказаць максімум аб'ектыўнасці і далікатнасці ў адносінах да тых, хто не можа сказаць слова ў сваю абарону. Творчасць Баршчэўскага — гэта люстра яго ідэалогіі, зоймемся ёю праз тыдзень.

Пачатак на стар. 1

кніг і брашур тыражом 26 мільёнаў 222 тысячы экземпляраў. Гэта разам з кнігамі, якія паступаюць у Беларусь з цэнтральных выдавецтваў СССР, саюзных рэспублік і замежных краін, дае ў сярэднім у год па 6 кніг на кожнага жыхара БССР.

Амаль 600 выдавецкіх пазіцый, паказаных на выстаўцы, выстаўляюць самую высокую ацэнку беларускай выдавецкай справе.

Шматтамовае старраннае выданне на беларускай мове твораў У. І. Леніна і вялікая колькасць пазіцый грамадска-палітычнай літаратуры з'яўляецца пераканаўчым пасведчаннем многаграннага развіцця грамадскай і палітычнай думкі на Беларусі.

Польскі наведвальнік з вялікай удзячнасцю ўспрымае багата прадстаўленыя ў аддзеле выстаўкі «Вянок дружбы» пераклады твораў польскіх пісьменнікаў на беларускую мову і асабліва каляровы альбом Я. Брыля і У. Калесніка «Між тых палёў», выдадзенага на беларускай і польскай мовах выдавецтвам «Беларусь» у 1968 г. і прысвечанага тым мясцінам на Беларусі, дзе нарадзіўся, жыў і пісаў першыя свае творы А. Міцкевіч. Элегантны томік перакладаў твораў А. Міцкевіча на беларускую мову «Зямля навагрудская, краю мой родны...», выдадзены «Беларуссю» ў 1969 г., даказвае, з якім піетызмам беларускі народ адносіцца да вялікага песняра польскага народа. Праца беларускага літаратуразнаўцы В. Гапавай «Элаіза Ажэшка. Жыццё і творчасць» («Беларусь», 1969 г.) ушаноўвае памяць выдатнай пісьменніцы, якая сваімі літаратурнымі творамі бараніла прыгнечаных працоўных беларускіх сёл і мястэчак. Дзве пазіцыі — А. Ясінскага «Народная Польшча» і Э. Пазднякa «Суседзі і браты» — прысвечаны сучаснасці нашага краю і братэрскім сувязям Беларусі з Народнай Польшчай.

Выстаўка наглядна паказала, што ў цэнтры ўвагі беларускіх выдавецтваў знаходзіцца родны край, дасягненні беларускай прамысловасці, навукі, асветы і культуры. І хоць на гэта не дазваляюць памеры майго артыкула, усё ж такі не магу ўстрымацца, каб не адзначыць шматтамовага выдання, прысвечанага паказу паасобных абласцей БССР, манаграфій прыродных і эканамічных рэгіёнаў Беларусі і беларускіх гарадоў, фауне і флоры рэспублікі. Побач з імі знаходзяцца дзесяткі абшырных і грунтоўных манаграфій як «Навука БССР за 50 год», В. Ф. Купрэвіча «Акадэмія навук БССР», С. В. Марцэлева «Друк Савецкай Беларусі», «Гісторыя беларускай савецкай музыкі», «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» і многа, многа іншых фундаментальных выданняў.




Творы сучасных беларускіх пісьменнікаў і творцаў з папярэдніх эпох атрымоўваюць у сваім родным краі неабмежаваны доступ да чытача ў сотнях выданняў. Выданні твораў Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча захапляюць высокай выдавецкай культурай. Яна ж таксама ўласціва і выданням сучасных беларускіх пісьменнікаў М. Танка, І. Шамякіна, П. Броўкі, А. Куляшова і дзесяткаў іншых беларускіх аўтараў.

У гэтым мностве пазіцый салідных вока наведвальніка прыцягваюць густоўныя, казачна-каляровыя выданні для дзяцей і моладзі. Іх мастацкае афармленне вытрымана ў стылі беларускай народнай арнаментыкі, нагляднае і рэалістычнае. Тое самае можна сказаць і пра беларускія школьныя падручнікі, багата аздобленыя каляровымі ілюстрацыямі і выдадзеныя старанна на паперы высокага класа. Нашым настаўнікам, асабліва беларускай мовы, застаецца толькі пазайздросціць іх савецкім калегам.

Выстаўка сведчыць, што беларускія выдаўцы маюць таленавітых мастакоў-ілюстратараў. Яны сваёй творчасцю, рэалістычнай і вытрыманай у добрай беларускай мастацкай традыцыі, даюць кожнаму выданню непаўторны арыгінальны выраз. На выстаўцы дэманстраваліся мастацкія працы А. Дэмарына, М. Ганчарова, Г. Паплаўскага, А. Шкляра, А. Кашкурэвіча і шэрагу іншых ілюстратараў. Усе яны з'яўляюцца не толькі ілюстрацыямі літаратурных твораў, але перад усім самастойнымі творамі графікі і жывапісу.

Мастацкае афармленне выстаўкі было вынікам творчага супрацоўніцтва мастака Мікалая Ганчарова з Беларусі і польскага мастака Генрыка Дабравольскага з «Дому кнігі» ў Беластоку. Гэтае супрацоўніцтва дало вельмі добры вынік: выстаўка была аформлена густоўна і багата.

Ля прылаўка выстаўкі ўвесь час таўпіліся пакупнікі і праз некалькі гадзін пасля яе адкрыцця шэраг выданняў адразу разышлося. Асаблівым попытам карысталася Беларуская савецкая энцыклапедыя, на якую наведвальнікі склалі звыш ста заявак.

І на заканчэнне перадам асноўныя заўвагі наведвальнікаў. Яны зводзяцца, як трэба было чакаць, да пажаданняў, каб такія выстаўкі беларускай кнігі былі арганізаваны ў Беластоку кожны год, каб разам з кнігамі наведвалі Беласточчыну іх аўтары — сучасныя беларускія пісьменнікі, даследчыкі польска-беларускіх культурных сувязей, мастакі, вучоныя. Беластачане хочуць іх бачыць, слухаць і прымаць у сябе як самых блізкіх прыяцеляў.

*Мікалай Гайдук.*



*Перад «наступленнем». Вучні будаўлянага тэхнікума ў Саколцы.*



*Кожны браў патрэбныя дрэўцы і ішоў іх садзіць у вызначаныя месцы.*

# Вясна чынаў

Нядзеля 16 красавіка г.г. у нашым ваяводстве была святам своеасаблівым. Каля 40 тыс. людзей выйшла на грамадскі чын. Вартасць выкананых прац ацэньваецца 2.120 тыс. зл. Людзі засадзілі 24 тысячы маладых дрэў і 7 тыс. кустоў. Асабліва добра папрацавалі жыхары г. Беластока, Саколкі і Лап. Ваш рэпарцёр наведаў Саколку.

Звычайная нядзельная раніца. Стараемся сазваніцца з кім-небудзь з улад. Маўчыць хатні тэлефон сакратара прэзідыума ПРН, а сын старшыні адказвае, што яго папа на чыне на «Зялёным». Едзем.

Тут сакальчане пастанавілі зрабіць штучнае возера. Праўда, калісь на гэтым месцы была вада, але былое возера зарасло зеллем і купамі травы. Часта пасвіліся тут каровы ды гусі. У гэтым годзе сакальчане не толькі змогуць пакупацца ў сваім возеры, але паплаваць байдаркамі і паруснымі лодкамі.

У нядзелю (16.IV) працаўнікі прэзідыума ПРН і сакольскага прадпрыемства тэрэновай прамысловасці, а таксама моладзь будаўлянага тэхнікума, вучні V — VIII класаў пачатковых школ № 2 і 4 садзілі дрэўцы і кусты ля возера, дзе потым будуць адпачываць яны, іх дзеці, госці.

Тут сустрэлі мы і Аляксандра Чужа, старшыню прэзідыума ПРН у Саколцы. Ён сказаў нам, што сакальчане працуюць не толькі ля возера, але і парадкуюць вуліцы і скверы горада.

*Тэкст і фота А. Карпюк*



*Сваё дрэўца хацеў пасадзіць і Адам Бароўскі, вучань I класа пачатковай школы № 2 у Саколцы. На жаль, яго клас яшчэ не прымае ўдзелу ў чынах, і таму ён папрасіў свайго бацьку дапамагчы.*



*Сакольскае возера чакае лета.*






Кожны дзень, улавіўшы вольную хвіліну, вы бярэце ў рукі свежую газету ці часопіс і заглыбляецеся ў іх чытанне. Задрукаваныя старонкі прыносяць вам дзесяткі вестак аб падзеях на ўсім свеце і ў нашай роднай краіне, у каментарыях і артыкулах вы знаходзіце тлумачэнне розных палітычных, грамадскіх, гаспадарчых падзеяў і з'яў, па здымках і артыкулах вы знаёміцеся з перадавымі рабочымі, гаспадарлівымі сялянамі, дзеячамі навукі, асветы, культуры. Удалы гумар змусіў вас усміхнуцца, а апублікаваныя праграмы радыё, тэлевізіі, тэатраў і кіно падкажуць, як і дзе правесці вам вольны вечар.Словам, у наш час газета і часопіс — неад'емная частка нашага штодзённага жыцця.

У развіцці друку ў нашай краіне выключна важная роля належыць Рабочай выдавецкай спулдзельні «Друк» (Robotnicza Spółdzielnia Wydawnicza, «Prasa»). Узнікла яна згодна пастанове Цэнтральнага Камітэта Польскай рабочай партыі ад 25 красавіка 1947 г. Датай заснавання РСВ «Друк» з'яўляецца дзень 10 мая 1947 года, у якім адбылося першае пасяджэнне Кантрольнага савета РВС «Друк». Калі паўставала спулдзельня ўваходзіла ў яе склад 43 членаў-заснавальнікаў: палітычных дзеячоў, рэдактараў і друкароў. Членам РВС «Друк» былі пастаўлены заданні: «Выдавецкая, асветная і прапагандная дзейнасць у марксісцкім духу для павышэння агульнага ўзроўню грамадскіх ведаў у Польшчы, выдавецкая дзейнасць, каб зрабіць даступнымі шырокім масам танны рабочы друк, мастацкую, папулярна-навуковую і іншую літаратуру; падтрымоўванне літаратурнай творчасці, распаўсюджванне дэмакратычных газет і часопісаў, а таксама іншых каштоўных уласных і іншых выдавецтваў».

Ад часу сфармуліравання гэтых заданняў мінула ўжо роўна 25 год, але іх важнасць і актуальнасць не зменшылася і ў нашыя дні.

РВС «Друк» пачынаў сваю дзейнасць вельмі скромнымі сродкамі: выданнем 8 газет і 4 часопісаў агульным аднаразовым тыражом 1 мільён 349 тысяч экземпляраў.

За дваццаць пяць год свайго існавання спулдзельня развілася ў магутнае выдавецкае прадпрыемства. У пачатку 1972 года РВС «Друк» выдаваў 46 газет і 168 часопісаў агульным аднаразовым тыражом: газеты — 7 мільёнаў 856 тысяч экземпляраў, часопісы — 11 мільёнаў 782 тысячы экземпляраў.

У РВС «Друк» працуе тры агенцтвы: Рабочае агенцтва (АР), Цэнтральнае фатаграфічнае агенцтва (ЦАФ) і Польскае агенцтва Інтэрпрэс. Журналісты і фотарэпарцёры гэтых агенцтваў дастаўляюць багаты актуальны матэрыял не толькі з усіх куткоў нашага краю, але і з усіх кантынентаў зямной кулі. І калі вы ў канцы артыкула ці пад здымкам знойдзеце таямнічыя скарачэнні «АР», «ЦАФ», «Інтэрпрэс», дык прыгадайце сабе, што вы чыталі або глядзелі матэрыял, дастаўлены ў публікацыю працаўнікамі РВС «Друк».

1 жніўня 1951 года ў Беластоку выйшаў першы нумар «Газеты Беластоцкай» — органа Ваяводскага камітэта ПАРП. Гэтым фактам РВС «Друк» распачала сваю плённую дзейнасць на Беласточчыне. А пачаткі не былі лёгкія. Першыя нумары «Газеты Беластоцкай» выходзілі тыражом усяго 20 тысяч экземпляраў. Але беластоцкае друкаванае слова стала паволі, аднак вельмі настойліва прабіваць шырокую дарогу да свайго чытача. І сёння «Газета Беластоцкая» выходзіць сярэднім штодзённым тыражом 114 тысяч экземпляраў.

РВС «Друк» паклапацілася таксама пра беларускую нацыянальную меншасць, якая пражывае ў Польшчы, асабліва на Беласточчыне. 4 сакавіка 1956 года выйшаў з друку першы нумар «Нівы» — органа Галоўнага праўлення БГКТ. Наш штотыднёвік цяпер выходзіць тыражом каля 7 тысяч экземпляраў, а за звыш 16 год выйшла яго ўжо 849 нумараў. Толькі за адзін 1971 год разышлося на Беласточчыне, па ўсёй нашай краіне і на ўсе кантыненты Зямлі 355 тысяч экземпляраў нашай «Нівы» з яе дадаткам для наймалодшых чытачоў «Зоркай».

У 1968 годзе РВС «Друк» пачаў выдаваць у Беластоку грамадска-культурны часопіс «Кантрасты». Спачатку ён быў квартальнікам, потым стаў месячнікам. У 1971 годзе выйшла 12 выданняў «Кантрастаў» агульным тыражом 62 тысячы 334 экземпляры. Сяляне Беласточчыны маюць таксама свой прафесіянальны часопіс «Нашае сяло» („Nasza Wieś"), які выдае РВС «Друк» у Ольштыне са спецыяльнай мутацыяй для нашага ваяводства.

Перад беластоцкай Рабочай выдавецкай спулдзельняй «Друк» стаяць шырокія перспектывы далейшага развіцця. Як паведаміў дырэктар РВС «Друк» у Беластоку Францішак Стачкоўскі, спулдзельня рыхтуецца да далейшага пашырэння чытальніцтва беластоцкага і цэнтральнага друку ў нашым ваяводстве, усё лепшага сучаснага абсталявання для працы журналістаў.

І калі вам здарыцца праходзіць каля Дому друку, што знаходзіцца на вуліцы Весялоўскага 1 у Беластоку і пачуць стракатню пішучых машын, далекапісаў і тэлетайпаў, прыгадайце сабе, што там паўстаюць новыя нумары «Газеты Беластоцкай», «Нівы», «Кантрастаў», «Нашага сяла» — вашых газет і часопісаў.

(мг)



*Дом друку ў Беластоку.* *Фота Я. Цялушэцкі*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ТРЫ ДОБРЫЯ ПАТРАВЫ З ЯЕЧАК

У мінулым нумары мы вельмі захвалялі вам яечкі, як адзін з неабходных веснавых прадуктаў. Сёння прапануем вам некалькі арыгінальных патраў з яечак.

### ЯЕЧКІ З БУЛЬБАЙ

На гэтую патраву неабходна ўзяць 1 кг бульбы, поўную лыжку масла, паўшклянкі гарачага малака, соль, 4 яечкі, 10 дэкаў сцертага на тарцы жоўтага сыра, зялёную пятрушку.

Абабраную бульбу зварыць, адцадзіць, стаўчы, дадаць масла, гарачае малако, па смаку соль і ўсё добра расцерці. Вылажыць бульбу роўным пластом у плыткую каструльку, зрабіць чарпаком 4 ямкі ў бульбе і ў кожную ямку ўбіць па адным яечку, сочачы, каб не разліліся жаўткі. Зверху яечкі пасыпаць соллю і перцам, а ўсё пасыпаць сцертым на тарцы жоўтым сырам, палажыць на ім яшчэ кавалачкі масла. Каструльку ўставіць у гарачую духоўку на 10 мінут. Падаючы патраву, пасыпаць яе зялёнай нарэзанай пятрушкай.

### АМЛЕТ З ЗЕЛЯНІНАЙ

На 6 яечак неабходна ўзяць 2 памідоры (могуць быць нават марожаныя), 5 дэкаў саланіны, лыжку смятаны, пучок зялёнай цыбулі, лыжку алею, лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, перац, соль.

Пасячы зялёную цыбулю, пятрушку і дробна нарэзаць памідоры. Саланіну таксама дробна нарэзаць і крыху падсмажыць на алеі, дадаючы зеляніну разам з памідорамі і прыправамі. На ўсё гэта ўліць яечкі, перад гэтым энергічна збітыя разам са смятанай. Смажыць амлет, не мяшаючы, на не вельмі вялікім агні. Падаючы амлет, не забыцца падаць разам з ім зялёны салат або зялёны гарошак. Дасканалая патрава для мужчын.

### АМЛЕТ З ВАРЭННЕМ

Калі папярэдняя патрава з яечак надавалася на больш трывалае ў сэнсе калорый блюда (таму мы і адзначылі, што вельмі адпаведная была б яна для мужчын, а нават і на самастойнае блюда на абед), дык амлет з варэннем — улюбёная патрава дзяцей.

На тры яечкі бяруць чатыры лыжкі цукру, 1 лыжку мукі, лыжку масла, сцертую лімонную скурку, 4—5 лыжак варэння, цукровую пудру з ванілінам, крыху солі.

Жаўткі збіць з цукрам, дадаючы муку, соль і сцертую лімонную скурку. Асобна трэба збіць цвёрдую пену з бялкоў. Пену дадаць да жаўткоў, лёгка вымяшаць. Атрыманую масу вылажыць на разагрэтае на патэльні масла і ўставіць патэльню ў ненадта гарачую духоўку на 10—15 мінут. Выняўшы гатовы амлет з духоўкі, ссунуць яго на талерку, паліць варэннем, зглажыць на палавіну і зверху пасыпаць яшчэ цукровай пудрай з ванілінам. Такі амлет можна падаваць яшчэ са збітай смятанкай.

*Гаспадыня*




### ГОРАД ПАВІНЕН ЖЫЦЬ

У другой палове снежня работа нашай групы ўскладнілася. Вастрэй адчуваліся — нас стала амаль у восем разоў больш — перабоі з прадуктамі. Наш Абдула (Саша) хітраваў, дзяліў дзённую норму круп, тлушчу, мяса на два, а то і тры дні. І ўсё ж запасы канчаліся. Галоўнае, не хапала патронаў, гранат, узрыўчаткі. Мы радзіравалі Паўлаву.

Было цяжка. Вельмі цяжка. Аднак кола нашай дзейнасці расшыралася: агентурная разведка, прыцягненне новых людзей, разведка боем, дыверсіі.

Тут мы даведаліся пра тое, што ўнесла сур'ёзныя змены ў нашы планы. Стаялі мы тады пад Казлуйкай, за трыццаць пяць кіламетраў ад Кракава. Дзень пачаўся ўдала. Раніцай з атрада Гардога — там ужо ведалі пра нашы беды — прыбыла ў суправаджэнні Яна Новака і двух партызан фурманка з прадуктамі харчавання: «Капітану Міхайлаву ад пана паручніка». Мяшок мукі, паўмяшка бульбы, тушка бараніны. Абдула павесялеў: запахла сапраўднай ежай.

Пасля абеду нечакана, не ў свой дзень з'явілася ў суправаджэнні Метэка Валерыя. Я ніколі раней — ні да, ні пасля — не бачыў яе такой. Твар бледны — ні крывінкі, у вачах — трывога, боль, надзея.

— Капітан Міхайлаў, — сказала яна, калі мы засталіся адны ў камандзірскай зямлянцы, — я прынесла вам надзвычай важнае паведамленне. Таварыш Міхал прасіў перадаць на словах: над горадам навісла бяда. Кракаў можа загінуць, ёсць неабвержныя доказы злачынных намераў акупантаў.

...Мы і раней пра тое-сёе здагадваліся. На жаль, нашы горшыя меркаванні пацвердзіліся.

— Як паведамляюць нашы людзі, — працягвала Валя, — работа ў горадзе вядзецца салдатамі спецыяльных каманд удзень і ўначы. На скрыжаваннях вуліц, на цэнтральных плошчах будуюцца бетонныя бункры. Падпольшчыкі налічылі на вуліцах Кракава дзвесце сорак жалезабетонных слупоў, укапаных за апошнія дні. Дастаткова зваліць іх, каб яны ператварыліся ў процітанкавыя заслоны. У закрытых машынах падвозіцца дынаміт. Вага ўзрыўчаткі часамі перавышае некалькі тон. Дынаміт закладваецца пад фундамент старых будынкаў.



*Валерыя Заёнц — Валя, сувязная.*

Яны, капітан Міхайлаў, задумалі такое, ад чаго кроў стане ў жылах. Горад літаральна набіты ўзрыўчаткай.

Называла аб'ект за аб'ектам: Вавель, Сукеніцы, універсітэт, «Дом пад баранамі», банкі на вуліцы Баштовай і на вуліцы Яна, тэатр Славацкага.

— Кракаў для нас, капітан Міхайлаў, — гэта не проста горад. І нават не толькі «галава і маці» айчыны, як кажуць нашы гісторыкі, не толькі «польскія Афіны», гэта душа Польшчы, яе жывая гісторыя.

Я ўспомніў атрыманае нядаўна паведамленне Гразы. Партызаны Арміі Людовай, якія трымалі пад сваім кантролем чыгунку і шашу Кракаў-Катовіцэ, далажылі Заёнцу: ад апошняга трамвайнага прыпынку (Бранавіцэ) у заходнім напрамку справа ад шашы капаецца глыбокі роў. Усе работы — ніводнага паляка да іх не дапускаюць — вядуцца выключна арганізацыяй «Тодт». Для якіх мэт?

Я папрасіў тады Гразу ўзмацніць нагляд за ходам работ. Цяпер праз Валерыю Аляксей і Заёнц паведамлялі: на дне рова амаль паўтараметровай глыбіні гітлераўцы ўкладвалі кабель дыяметрам чатыры сантыметры. Укладзеныя ўчасткі кабелю тут жа засыпаліся. Відаць, немцы стараліся захаваць усё ў тайне.

Немцы дацягнулі кабель да месца, адкуль ішла дарога да Ойцува. Побач стаялі сялянскія домікі. У адным з іх жыў знаёмы Прысака-Музыканта. Аднойчы паваліў снег з дажджом. Здарылася так, што ў часе перапынку на абед немцы зайшлі ў дом гэтага селяніна пагрэцца. Гаспадар, папярэджаны Музы-

